

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

На Магілёўшчыне не хапае мэдыкаў. Па афіцыйных зьвестках не хапае, з улікам месцаў, занятых пэнсыянэрамі, амаль 1000 спэцыялістаў розных профіляў (усяго ў мэдычных установах працуе каля 5000 чалавек). У чым праблема? Яна традыцыйна ў матэрыяльных умовах. Нізкія заробкі, адсутнасьць жыльля, слабая тэхнічная абсталяванасьць лекарскіх установаў вымушаюць мэдыкаў шукаць іншую працу. Магчымасьць вырашэньня праблемы "мэдычных кадраў" улада звыкла бачыць у прымусовым разьмеркаваньні выпускнікоў адпаведных установаў і пракурорскім наглядзе за ягоным выкананьнем. Вынік такой палітыкі пазначаны вышэй: вобласьці не хапае 1000 мэдыкаў.

У Магілёве скончыўся суд на "лідэрам магілёўска-чачэнскай злачыннай групоўкі" (так гэта афіцыйна пазначалася), якую ўзначальваў вядомы ў горадзе прадпрымальнік Алі Хан. Ён атрымаў 8,5 гадоў зьняволеньня. Аднак зрабіць справу гучнай у сэньсе выкрыцьця ўладнай карупцыі і злоўжываньняў на "Хімвалакно", на што разьлічвалі некаторыя ўплывовыя ў краіне колы, не ўдалося. Справа слухалася як звычайная крымінальшчына – рэкет, вымагальніцтва, падатковы падман. Астатняе засталося на ўзроўні чутак.

На нарадзе ў абласным цэнтры з удзелам міністра прамысловасьці старшыня гарвыканкаму паведаміў, што ў горадзе засталося да... 40% стратных прадпрыемстваў. Гэта лічыцца сёньня немалым дасягненьнем. Засмучае яшчэ адно "дасягненьне": колькасьць стратных прадпрыемстваў расьце, аднак аб'ёмы вытворчасьці павялічваюцца, бо так загадаў Лукашэнка. Гэта значыць, што прадпрыемствы працуюць сабе і нам на шкоду, марна выкарыстоўваюць матэрыялы, энэргетычныя і чалавечыя рэсурсы й дарма загружаюць статыстыку. Ці можна назваць гэта выразнай эканамічнай палітыкай краіны?

Дабрачынцы з Францыі напярэдадні чарнобыльскай гадавіны прывезьлі на сваіх мікрааўтобусах больш за 50 тонаў карысных рэчаў: адзеньня, харчаваньня, лекаў, цацак. Разам з гэтым французы пакінулі ў абласным цэнтры 8 мікра-аўтамашынаў, якія абсталяваныя пад мабільныя "хуткія дапамогі". Як у каго, а ў мяне такія ўчынкі выклікаюць падвоенае пачуцьцё. З аднаго боку ахутвае ўдзячнасьць да невядомых заходніх сяброў. З другога – сорам за сваіх, на жаль, вельмі вядомых кіраўнікоў краіны, якія зьвялі чарнобыльскую тэму да жупелу змаганьня з апазыцыяй.

Старшыня аблвыканкаму Міхаіл Дражын прызнаў, што калгасная вёска небясьпечна хварэе. Падзеньне вытворчасьці за год павялічылася ледзь не на траціну, жывёлы стала на 1500 галоў менш, пазыка па заробках сягае дзе-нідзе на паўгадовы тэрмін. Ня першы раз шчыра выказваецца наконт становішча нашай сельскай гаспадаркі старшыня аблвыканкаму. Але далей – у поўнай адпаведнасьці з патрабаваньнямі Лукашэнкі – пераходзіць на гаворку пра "дысцыпліну, пэрсанальную адказнасьць кадраў, унутраныя рэзэрвы, дапамогу гараджанаў агульнай справе" і да таго падобных, даруйце, камсамольскіх разважаньняў. Цяжка сабе ўявіць, што М.Дражын зь ягоным досьведам працы ў сельскай гаспадарцы сапраўды не разумее, у чым прычыны падзеньня калгаснай вёскі.

У забруджаных раёнах вобласьці некалькі дзён знаходзіліся дэпутаты, як яе называюць, Палаты прадстаўнікоў. Цяжка сказаць, што яны маглі там знайсьці, акрамя радыяцыйнага пылу, і што маглі станоўчага паведаміць людзям. Такія візыты ня больш, чым рытуальнае дзейства на кожную чарнобыльскую гадавіну. Пры ўсім гэта таксама недарэчная спроба перахапіць ініцыятыву ў апазыцыі, якая "толькі і ведае, што спэкуляваць на балючай тэме, у той час як мы (яны) займаемся справай". Якой, шаноўныя дэпутаты? Рызыкну паабяцаць любое месца ў нашай газэце для інтэрвію альбо артыкула на гэтую тэму. Чакаю дэпутацкіх прапановаў.

Кантралёры праверылі наяўнасьць паліўна-змазачных матэрыялаў у гаспадарках вобласьці. Выявілася, што ў 330 гаспадарак (усяго іх крыху больш за 400) паліва для трактароў і аўтамашынаў ёсьць толькі на дзень-два працы. На дзень праверкі кантралёры засьпелі 220 трактароў, якія мелі вытворчыя заданьні, аднак не змаглі выбрацца ў поле з-за адсутнасьці паліва і ўласна трактарыстаў. Іх чакаюць з гораду, але тут свае праблемы: гарадзкому рабочаму трэба плаціць, яго трэба належным чынам уладкаваць. А даць усё гэта многія калгасы няздольныя.

Сёлета амаль на 900 чалавек вырасла колькасьць беспрацоўных у вобласьці. Іх цяпер ужо больш за 5200 чалавек. Магчыма, ня менш, калі ня больш, "неафіцыйных" беспрацоўных. Дарэчы, днямі сутыкнуўся ў адным афіцыйным дакумэнце з новым тэрмінам, які ўлада ўжывае адкрыта: сталая беднасьць. З паперы вынікае, што цяпер 24 адсоткі магілёўцаў "пражываюць у сталай беднасьці ўсе 12 месяцаў года". Жадаю чытачам ніколі не трапляць у гэты дакумэнт.

*Да сустрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

ПРЭС-РЭЛІЗ САКРАТАРЫЯТА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ЗЬЕЗДА

## Замежжа падтрымвае

Беларусы замежжа актыўна падтрымліваюць ідэю правядзеньня Ўсебеларускага Зьезда. Аргкамітэт атрымаў зварот ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы і яе намесьніка Сяргея Навумчыка. У прыватнасьці яны падкрэсьлілі, што: "Рада БНР пацьвярджае сваё імкненьне да кантактаў з усімі палітычнымі і грамадзкімі сіламі Беларусі, якія стаяць на пазыцыях Акта 25 сакавіка 1918 года. Гэта значыць, найперш Незалежнасьці Беларусі". Як гаворыцца ў звароце, шчырую зацікаўленасьць у посьпеху гэтага форуму выяўляюць і іншыя сябры Рады як у Эўрапейскіх краінах, так і ў ЗША і Канадзе.

19 красавіка Аргкамітэт Зьезда атрымаў ліст ад намесьніка старшыні Міжрэгіянальнага аб'яднаньня беларусаў Расеі Валянціна Грыцкевіча. Спадар Валянцін цалкам ухваляе ідэю правядзеньня гэтага мерапрыемства і заяўляе аб жаданьні прыняць удзел у ягонай працы.

**Кантактны тэлефон Сакратарыята Ўсебеларускага Зьезда: 223-65-29.**

РУБРЫКА ДОКТАРА ВАСІЛЯ АЎРАМЕНКІ

## ЯК ВЫТРЫМАЦЬ ІСПЫТЫ НА ВЫЖЫВАНЬНЕ

Калісьці, яшчэ гадоў 15 таму, на маёй радзіме можна было хадзіць басанож у лузе, а ў лесе зьбіраць ягады і грыбы. Але як гэта даўно было і як незваротна сплыло! А прычынай таму – што мясьціны мае знаходзяцца за 60 км ад Чарнобыля.

Сёньня я – за 14 год і за 300 км ад тае злавеснае кропкі – Чарнобыльскай АЭС – але не магу быць спакойным. І ня толькі таму, што як і дзясяткі тысяч землякоў, згубіў радзіму, але й таму, што здароўе – і маё, і маіх сваякоў ды блізкіх знаходзіцца ў небясьпецы.

Апошнія гады мы звыкліся з Чарнобыльскай бядой, а на фоне сацыяльна-палітычных праблем амаль забыліся на яе. Аднак сярод галоўных беларускіх трагедыяў XX стагодзьдзя Чарнобыльская бяда – самая галоўная. Бо гэта бяда біялягічная, якая высякае беларускае дрэва пад корань, не разьбіраючы ні палітычных, ні ідэйных разнагалосьсяў. Аднак беларусы гэтага не зразумелі, як, дарэчы, і многіх іншых гістарычных урокаў.



Ужо сёньня даказана, што малыя дозы радыяцыі (а іх па самых аптымістычных прагнозах атрымліваюць 2 мільёны беларусаў) павышаюць узровень захворваньня на гіпэртанію, цукровы дыябэт, інсульты, інфаркты, рак мозгу, лёгкіх, кішэчнага тракту. Парушэньні генэтычнага коду прыводзяць да частых выродстваў, ранняга старэньня, зьніжэньня пладавітасьці будучых пакаленьняў. Па разьліках спэцыялістаў 45-50% хлопчыкаў, народжаных у забруджаных зонах пасьля 1986 году, ня змогуць мець дзяцей. Пералік адмоўных, калі не сказаць – жахлівых наступстваў Чарнобыля можна доўжыць (грунтоўна аб іх – у дакладзе прафэсара Ю.Банджэўскага, былога рэктара Гомельскага мэдінстытута, які ці не за гэты даклад і трапіў за краты). Але мне здаецца, што такія факты сёньня мала каго хвалююць. Кожны заняты штодзённым клопатам уласнага выжываньня й не стараецца глядзець наперад ці навокал. І толькі сутыкнуўшыся са сьмерцю блізкага чалавека, ці сам стаўшы перад страшным дыягназам-выракам, на хвіліну задумваецца: а чаму ж так здарылася, і хто тут вінаваты.

Вось парадокс: вялікія спадзяваньні на ўладу, якія былі яшчэ гадоў 5-6 таму, скончыліся поўным крахам, але людзей гэта мала зьдзівіла – як быццам так і трэба. Яно і сапраўды, уладары зараз таксама займаюцца ўласным выжываньнем ды кінулі сваіх грамадзянаў фактычна ў пашчу няўмольнаму лёсу. А пры вялікім жаданьні, між іншым, дзяржава магла б зрабіць сваім людзям нямала карысьці. Напрыклад, не адпіхваць дапамогу Захаду, а забясьпечыць лекамі і чыстымі прадуктамі хаця б тых 300 тысяч чалавек, якія працягваюць жыць на вельмі бруднай тэрыторыі, дзе жыць фактычна нельга. Ці – спыніць вытворчасьць харчу на тых жа тэрыторыях ды ўвесьці больш жорсткі радыяцыйны кантроль за сельгаспрадуктамі. Ці – даваць аб'ектыўную, у тым ліку й негатыўную інфармацыю па Чарнобыльскай тэматыцы, даць людзям свабоду выбару і магчымасьць адукацыі ў гэтай сфэры. У сапраўднасьці ўсё робіцца наадварот: зварочваюцца Чарнобыльскія праграмы, ідзе татальная дэзінфармацыя і "ружовая" статыстыка, чарнобыльцы залічваюцца да "практычна здаровых", брудныя зоны абвяшчаюцца "ўжо чыстымі", а Захад – галоўным ворагам беларусаў. Як быццам бы гэта "лепшы сябра" – Расея – столькі год адбудоўвала нашы мэдычныя цэнтры і пастаўляла шматмільённую гуманітарную дапамогу. Як быццам у Расею езьдзілі адпачываць нашы дзеці і вучыцца многія спэцыялісты-мэдыкі...

**Вось некалькі практычных парадаў, якія хоць у нечым могуць вам дапамагчы.**

**1.** Рэгулярна правярайце шчытападобную залозу, як орган-мішэнь пасьля 1986 году.

**2.** Цікаўцеся паходжаньнем прадуктаў, асабліва гародніны і малочных, і не ўжывайце іх, калі яны паходзяць з Слаўгарадзкага, Краснапольскага, Чэрыкаўскага і Касьцюковіцкага раёнаў. Не зважаючы на патрыятызм, больш ешце імпартнай садавіны – радыяцыі там адназначна менш.

**3.** Не зьбірайце дары лесу ў забруджаных зонах (ад 1 кюры на квадратны кілямэтар і больш – арыентуйцеся па мапе). Правярайце на радыяцыю ягады-грыбы (у Магілёве ёсьць тры адпаведныя ўстановы).

**4.** Не ўжывайце ў ежу дзіч, а пажадана і рачную ці азёрную рыбу з забруджаных зонаў.

**5.** Прымайце полівітаміны, асабліва ў зімова-вясеньні пэрыяд – як прафіляктыку анкалягічных хваробаў.

**6.** Раз на тыдзень рабіце "разгрузачны" садавіна-гароднінны дзень, або ўвогуле – галадоўку на чыстай вадзе.

**7.** Раз на год выязджайце ў чыстую зону на 3-4 тыдні, а дзецям пажадана і на 1,5-2 месяцы.

*Вядома, гэта ня ёсьць панацэяй, але калі вашае жыцьцё працягнецца хоць на 5-6 год, гэта будзе някепска. Не забывайцеся на тое, хто вы й дзе жывеце. Адзін з галоўных урокаў Чарнобыля: хто мае кароткую памяць – той мае кароткае жыцьцё.*

## Хрысьціянскія прынцыпы і рэальнае жыцьцё

Цягам усяе гісторыі людзі, безумоўна, пыталіся: ці можна выкарыстоўваць хрысьціянскія прынцыпы ў бізнэсе.

Вядома ж, Сьвятая Біблія – аснова хрысьціянства – дае шмат адказаў на чалавечыя пытаньні. Адзін з найгалоўных прынцыпаў яе – любіць адзін аднаго. Карыстаючыся гэтым прынцыпам, сапраўдны лідэр заўжды здолее стварыць такую атмасфэру ў сваім асяродку, у якой людзі будуць пачувацца вольна й камфортна, не адчуваючы ніякага страху. Бо сам прынцып любові выключае гэты страх. Такім чынам, людзі маюць давер адзін да аднаго й дзякуючы гэтаму яны лепш працуюць.

Біблія дае лідэрам шмат парадаў. Аднак важна, каб тыя ведалі, якім чынам выкарыстоўваць іх, калі надарыцца патрэба. Адна з галоўных характарыстыкаў лідэрства ў тым, каб умець кантраляваць сябе ў няпростай сытуацыі. Калі ў сваёй працы лідэр выкарыстоўвае прынцып любові, ён будзе паважаць сваіх падначаленых. Менавіта ў такім разе ён стане аўтарытэтным кіраўніком. А калі ён стане аўтарытэтным спасярод сваіх падначаленых, ён зможа натхняць іншых людзей. Згодна зь Бібліяй, асабісты ці які-колечы бізнэсовы посьпех поўнасьцю залежны ад стаўленьня асобы да іншых людзей, ад ейнае здольнасьці да супрацоўніцтва ды пабудовы добрых стасункаў з суседзямі.

На вялікі жаль, у нашай краіне, дзе доўга панавалі часы "вялікай атэізацыі" разам з заўзятым змаганьнем з прыватнасьцю, гэтыя хрысьціянскія прынцыпы і каштоўнасьці разглядаюцца як нейкае вар'яцтва. Зразумець можна. Людзі стараюцца рэальна глядзець на рэчы. Жорсткая беларуская сапраўднасьць бярэ сваё... Якія ж тут прынцыпы?

***Віталь БУГАЁЎ***

***Ад рэдакцыі.*** ***Віншуем праваслаўных вернікаў Магілёўшчыны з надыходзячым Вялікднём. Зычым усім здароўя, добрага настрою і жыцьцёвых удач!***

